 


# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 1 (932) ГОД XIX БЕЛАСТОК 6 СТУДЗЕНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.





## БГКТ ХРОНІКА

■ У Вярхлессі на Сакольшчыне нядаўна аднавіўся гурток БГКТ. Цяпер у ім 18 членаў, якія абмеркавалі план працы і выбралі праўленне гуртка ў наступным складзе: Ірэна Цітовіч — старшыня, Ніна Дубянецкая — сакратар, Ірэна Каласоўская — скарбнік.

■ Справаздачна-выбарны сход гуртка БГКТ (адбыўся 13 снежня) у Міхалове прайшоў на высокім, прыкладным узроўні. Са справаздачай выступіў Рышард Варабей — кіраўнік ГОК-у. Прысутныя прынялі новы план працы і выбралі новае праўленне гуртка. Старшынёй паўторна выбраны Антон Саковіч, сакратаром — Галіна Госцік, скарбнікам — Янка Палоцкі і членамі праўлення — Яўгень Аксюцік і Галіна Лобач. Сем чалавек сход прыняў у рады БГКТ.

■ У Аўгустове (Бельскі павет) гурток БГКТ налічвае 36 членаў. На апошнім сходзе, які адбыўся 15 снежня, члены БГКТ падсумавалі дагэтуляшнюю дзейнасць, прынялі план працы і выбралі праўленне на чале з настаўнікам Яўгенем Аніськам.

■ Справаздачна-выбарныя сходы адбыліся таксама ў Міклашах і Дубне ў Бельскім павеце. У Міклашах узначальвае гурток БГКТ Мікалай Гонта, а ў Дубне — Ніна Мусько.

■ На справаздачным сходзе гуртка БГКТ у Гаркавічах на Сакольшчыне абмяркоўвалі справу ажыўлення культурна-асветнай працы. Прысутныя выбралі новага старшыню гуртка ў асобе Мікалая Яцэвіча.

■ 16 снежня ў гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку меў аўтарскую сустрэчу Мікалай Гайдук, які чытаў свае апавяданні пад агульным загалоўкам з „Мінулага Беласточчыны".

■ 17 снежня прэзідыум сакольскага праўлення аддзела найбольш прысвяціў увагі ўдзелу БГКТ у культурна-асветнай дзейнасці павета, у тым ліку ў развіцці мастацкай самадзейнасці і падрыхтоўцы аддзела да конкурсаў БГКТ (песеннага і тэатральнага). Пастаноўлена, што 25 студзеня аддзел арганізуе для дзяцей навагоднюю ёлку.

■ 18 снежня ў Войшках (Беластоцкі павет) апаратурай ГП БГКТ былі паказаны два савецкія фільмы — „Дзёрзкасць" і „Гадзіннік спыніўся апоўначы". Пасля фільмаў пад кіраўніцтвам дырэктара мясцовай васьмікласнай школы Аляксандра Бартошука адбыўся супольны сход гурткоў БГКТ і ЗСМВ. Гаварылася на ім аб патрэбе большай актыўнасці гурткоў у культурнай працы, а таксама ў пабудове святліцы.

■ У апошнім часе адбыўся справаздачны сход БГКТ у Сукавічах, што на Сакольшчыне.

■ БГКТ-оўцы сямяціцкага аддзела амаль усе маюць аплачаныя членскія складчыны за 1973 год. На дзень 20 снежня аддзел выканаў аплату складчын у 95 працэнтах. (мх)



*Зімою над ракою Нараўкай.* *Фота Я. Цялушэцкага*




**МАЛЕНЬКАЕ, ЗМЁРЗШАЕ, НА ПРЫПЫНКУ СТАІЦЬ І НОСАМ ШМОРГАЕ...**

Што гэта? Вось адгадайце, калі ласка. А справа зусім простая.

Кожнай раніцай тысячы будучых прафесараў, лекараў, інжынераў ці іншых кваліфікаваных працаўнікоў збірае свае сшыткі і кніжкі і тупае ў пачатковую школу. У першы там, другі, ці іншыя класы.

Некаторым да школы шмат дарогі. І вось стаяць на аўтобусных прыпынках невялічкія, атуленыя, з чырвонымі носікамі фігуркі. Партфель на зямлю паставіўшы, ножкай аб ножку пастукваюць, ручкі ад холаду заціраюць, чакаюць на аўтобус або на добрага дзядзю, які бы іх куды трэба падкінуў.

А тым часам дзядзі тыя і цёці на сваіх бліскучых Волгах, Фіятах, Масквічах, Шкодах, не глянуўшы нават, пераважна праносяцца міма. А быў нават такі агульнапольскі заклік: „Не мінайце дзяцей, не дайце ім мёрзнуць, падвязіце школьнікаў".

Таму, едучы 22 кастрычніка па шашы Беласток—Баброўнікі, я быў вельмі прыемна здзіўлены. У вёсцы Маёўка чакае штодня на дарозе ў Каралёвы Мост міленькая вучанічка. У чырвонай куртачцы з каптурком, з-пад якога толькі востранькі носік выглядае. За плячыма цяжкаваты тарністар. Першы год ездзіць. Пасадзіш яе ў машыну, а яна і словам не аказваецца. Толькі вочкі весела паблісквaюць, радая, відавочна, што ёсць чым пад'ехаць. Таго дня перада мною ехаў беластоцкі „Жук" з нумарам АМ 62-58. Гляджу, прыстаў каля маленькай. Выскачыў з кабіны памочнік вадзіцеля, галантна рукою ў сярэдзіну запрашае. А пасля проста на рукі падхапіў маладзенькую „даму", уладкаваў, сам сеў і паа-ехалі.

Радасна зрабілася на душы. Дзякуй табе, добры чалавеча, хацелася пратрубіць на сігнале. Хоць навошта? У Каралёвым Мосце яму напэўна тоненькі дзіцячы галасок „шчыра дзякую" — пісне. І на сэрцы яму зробіцца цёпла, цёпла.

**Ларс**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

**Скачок у будучыню ● Магічная музыка ● 50-ай гадавіне КПЗБ ● Азяраны Вялікія ● Выхаваўчыя вечары ● Зіма вясковых дзяцей ● З маёй званіцы ● У нашых самадзейнікаў ● Дзіўныя дзівы ● Весткі з Гайнаўкі, Лукі, Саколкі, Гарадка, Паўлаў, Плёсак, Сухавольцаў, Сукавічаў, Бельска ● Песня ● „Kto nas pokocha".**

## „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-73"



*Удзельніца фінальнага агляду Эмілія Калодка з Варшавы. Фота А. Карпюка.*




Беласценны будынак узвышаецца на стромкім пагорку, што пануе над наваколлем. Унізе, у яго падножжа, уздоўж ракі Свіслачы прытулілася вёсачка Мастаўляны, а там далей, за кучаравымі соснамі старадаўняга могільніку, сярод поля прымасцілася стадка будынкаў на былым фальварачным дзядзінцы — радзіме слаўнага Кастуся Каліноўскага. Адтуль штодня раніцою бягуць у школу дзеці, і тут сустракае іх ля ўвахода ўмураваная ў школьную сцяну мармуровая мемуарная дошка з надпісам пра тое, што пятнаццаць год таму гэтай школе прысвоена імя выдатнага барацьбіта за „нашу і вашу" свабоду, правадыра студзеньскага паўстання...

Дырэктар школы Зінаіда Усціновіч інфармуе, што ў васьмі класах вучыцца тут усяго 85 дзяцей. Працуе пяць настаўнікаў — усе жанчыны. У дыдактычна-выхаваўчай працы не абыходзіцца без цяжкасцей, але ёсць таксама і дасягненні. Што ж, ад Мастаўлянаў да бліжэйшай чыгуначнай станцыі ці аўтобуснага прыпынку сем кіламетраў. Калі спатрэбіцца што-небудзь са школьных дапаможнікаў ці абсталявання, дастаўляй яго, як хочаш. Часам трапіцца нехта з мясцовых сялян, дык падкіне, але бывае і так, што трэба саматуж, ва ўласных руках ды пяшком. І ўсё ж класы абсталяваны нядрэнна: ёсць і добрая мэбля, і значная колькасць дапаможнікаў, заняткі па прыродазнаўчых прадметах адбываюцца ў фізіка-хімічным і біялагічным кабінетах з даволі добрым забеспячэннем дапаможнікамі. Шмат што зрабілі самі настаўнікі ды пад іх кіраўніцтвам вучні: і наглядныя табліцы, і ілюстрацыі, і чарцяжы, і розныя экспанаты.

Цяпер дырэктар намерваецца абсталяваць матэматычны кабінет. Пачатак ужо ёсць — крыху дапаможнікаў, шафа і асноўнае — матэматычны гурток, у якім займаецца 18 вучняў з V—VIII класаў. Вядзе яго сама дырэктар. Заняткі адбываюцца ў групах паводле ўзросту членаў гуртка. Шмат увагі звяртаецца, побач з іншымі тэмамі, на выбраныя

**(Працяг на стар. 4)**

 

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА—МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 180


## НОВЫ ГОД

У Новым годзе
будзе добра
будзе інакш і лепш
Клавіятура пад пальцамі
добрымі ціхімі
ажывае асцярожна
у гуках свежых і новых
незвычайных
Новы год пачаўся
праясніўся кругагляд
Гадзіннік з зазюляй
ідзе нястомна
праз гады
Хутка дванаццаць
у цішыні ўрачыстай
чакаем...
будзем сустракаць
Новы год
зараз... зараз...
зязюля выскачыла
і закукавала
галасней чым заўсёды
здавалася
і... кончыўся адзін год
а другі пачаўся
яшчэ адзін год
непаўторны зусім іншы
хоць можа
і на другія падобны

**Ірэна Баравік**



## ДАРОГІ

Я думаю часта, як многа
праклалі на свеце дарог.
Ад роднае хаты парога
ў свет павядзе нас дарога,
адна з тых вядучых дарог...

Ды толькі згадаць труднавата,
каб выбраць напрамак як след.
Хоць многа дарог не занята,
занятых таксама багата,
Па ёй жа ты крочыш у свет...

Адна павядзе нас далёка
за моры, за рэкі, да зор...
Не згледзіць арлінае вока,
каб як прыглядалася вокал,
дзе неба схілілась за бор...

Другая хвастом павіляе
ды зверне за лесам свой ход,
як горку ля хаты пазнае,
убачыць яе пажадае...
Прыцягне да родных варот...

Падумаць жа трэба, што ногі
як зробяць далёкі агляд,
свае не забудуць парогі...
Куды не вялі б нас дарогі, —
яны прывядуць нас назад...

**У. Шклярук**





* ✲ *

*Пушча апранула нас лісцём*
*малінай накарміла і суніцай*
*а птушкі напаілі песняй*
*і дуб зачараваў былінай*
*ляжым у гамаку даліны*
*ад бясклапоцця ап'янелы*
*усё усё для нас*
*а мы з табою для кахання*

**Алесь Барскі**

## КАЛІНА

**(памяці партызанкі)**

Мяцеліца
Абрус заслала
На сонныя даліны
Яна ласкава
Цалавала
Кудравую каліну

Адна
Задумана на лузе
На светлым фоне снегу
Стаіць каліна
Разважае
Ці знаюць праўду людзі

Замерзлі на марозе гронкі
Яны дрыжаць як слёзы

На месцы гэтым
Партызанка
Загінула ў час бою

Дзяржыць каліна ганарова
Варту над запрапалай
Аб тым
Што пад ёй спіць дзяўчына
Каліна толькі знае.

**Ул. Гайдук**

## ТУДЫ...

Зноў човен поўны ўспамінаў
Плыве ў мінулыя гады
У свет дзіцячае краіны
У свет праменняў і вады.

Туды дзе ліпа пахла квеццем
Дзе белы дым акутаў сад
Дзе прыкрывала сінню неба
Здзічэлы ў садзе вінаград.

Туды дзе пахнуць кветкі мёдам
Дзе рэчка рвецца ў берагах
Дзе птушкі дружным карагодам
На поўдзень цягнуць па начах.

Туды дзе збожжа б'ецца хваляй
Калыша васількоў блакіт
І зорак буйныя каралі
Ляцяць у глыбіню ракі.

Туды дзе бацька араў поле
І зёрна кідаў у загон
Дзе крык і спеў на крыллях волі
Бягуць за ветрам уздагон.

Туды дзе спеўнай роднай мовы
Вучыўся ад бацькоў і дрэў
Дзе ўбіраў у сэрца словы
І слухаў гаманлівы спеў.

**Міхась Шаховіч**



* ✲ *

**дэдыкацыя**

ты в словах
знаеш крывджу тэбэ
направду
то як бы зіму зробіті
з гусячого пуху

сядэш в туом кріеслові
(о до чорта
з очыма
ты мусіш так)

то мое кріесло
муой стуол
і муой дыван
і нэ маеш права
тутай прыходіті

знаеш мы нэ повінны так
в твоіх покоях
мэнэ тожэ нэма

нэ будэ пшышлого споткання
тэі стацыі вцале нэма.

**Зося Сачко**



## СТРЭМКА

Застраміў я сэрца — зацвіло агнём.
Мучуся,
ноччу лічу зоры,
удзень месца не знайду нідзе.
І, калі нельга ўхіліцца ад людзей,
паказваю ім твар вясёлы,
усмешкай бестурботнаю вітаю,
хоць слёзы ў грудзях іграюць.
А стрэмка
уваходзіць ўсё глыбей...
І што ж далей?
Сэрца згарыць?
З нарывам разарвецца?
Бо стрэмкі выкінуць
не можа
і... не хоча.
Бо ў ёй зачараваны сілаю варожай
Шчасця кусочак.

**Алесь Свісёк**

## Ян Гушча

Ян Гушча, польскі пісьменнік з Дзісеншчыны, склаў анталагійныя зборнікі беларускага верша і апавядання, перакладае вялікага Максіма Багдановіча. Колькі ж звычайнасці, натуральнасці ў Гушчавым зацікаўленні беларусчынай! Слухаеш яго і, здаецца, гаворым як гаспадары-суседзі, жыхары той самай вёскі.

Беларуская культура, другая частка Дзісны яго, найважнейшага горада свету. З вобразам маладых гадоў чалавек, кажуць, ідзе праз усё жыццё. Гушча на дарогах нялёгкага лёсу не згубіў першай, падоранай яму Максімам Танкам кніжыцы „На этапах". Польскі Гушча і беларускі Танк — паэты той жа ваколіцы, якую апелі, кожны па-свойму. І як жа зусім звычайна, без святочнага падкрэслівання ўспрыймаецца тое, што Максім Танк многа робіць дзеля азнаямлення Беларусі з польскай літаратурай. Адна зямля.

Ян Гушча прыехаў у Беласток на тры дні. Сваёй першай прысутнасцю сярод нас, у тыя тры лістападаўскія дні, пакінуў адчуванне нечага такога сяброўскага, што аж сваяцкага. Віталі яго, як госця, развітваліся — як з прыяцелем дома, якога сардэчна ўспамінае сям'я.

**Сакрат Яновіч**

## СВІЦЯЗЬ

*...Вось і ляжыш разгойданае крыху*
*у берагах кругападобных*

*Цягі качак над вадой усхваляванай*
*Гарызонты падаюць па-за лясамі*

*Навокал дрэвы ў чырвані*
*Асенняе пажарышча*

*Берагі даступны тваё*
*Няма перашкод на дарогах к табе*
*Хоць было што ніводная сцежка*
*з ніводнага боку свету*
*да цябе*
*не вяла*

*І найлепш аб гэтым ведаў той*
*хто пакінуў нам цябе ў спадчыне.*

**22.X.70 г.**

**(з кніжкі „Размовы і закляцці")**

## ВЯЗЫНКА

Гадоў таму ўжо дзевяноста,
як тут прыйшоў на свет
у ноч Купалы
у сям'і Луцэвічаў,
звычайных арандатараў скромнага маёнтку
сын Янка.

Затрымалі яму ягоны час —
пад дахам з гонтаў,
у драўлянай хаце,
у покуце
вісяць
іконы.

А на стале —
буханка цяжкай долі,
аб чым расказывалі вершы.

У сенцах
маслабойка,
куфар,
жорны,
кросны.

Ля дома
пышныя вяргіні,
аксаміткі,
астры.

І дрэвы ў садзе
зусім
маладыя,
хоць ліпы ўзняліся высока.

Ніжэй ставок,
які пустуе
без качара бліскучага і качак.

Частуе хтосьці яблыкамі,
якія нёс у кашолцы,
бо гэта верасень.

І так усё звычайна тут,
аж незвычайна —
што нават спутнікі
ніяк нас не здзіўляюць.

**Мінск. 15.IX.72 г.**

Пераклаў з польскай мовы
**Ян Чыквін**

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

# Сяргей НЕДЗВЕДЗЬ



Добрым жывёлаводам з'яўляецца селянін Сяргей Недзведзь з вёскі Семенякоўшчызна Гайнаўскага павету. Гадуе ён пародзістых авечак, 6 кароў і племяннога быка, 2 свінаматкі і больш 10 свіней.

Пад збожжавыя культуры і на сенажаці высявае 200 кілаграмаў NPK у чыстым складзе на 1 га. Атрымлівае даволі вялікія ўраджаі: 26 цэнтнераў збожжа з 1 гектара зямельных угоддзяў і ў сярэднім 300 цэнтнераў бульбы „Уран".

Палявыя работы механізуе пры дапамозе сельскагаспадарчых машын з сельгасгуртка ў Семяноўцы, які своечасова выконвае ўсе заказы сялян на таго ці іншага роду паслугі.

Сяргей Недзведзь апрача дамашніх абавязкаў выконвае грамадскую функцыю. Ён з'яўляецца старшынёю мясцовага гуртка ЗБоВіД. У час апошняй сусветнай вайны прайшоў ён доўгі баявы шлях.

Тэкст і фота **Я. Ц.**

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

*ЛЮБОЎНАЯ*




*Летам каля рэкі, летам каля бору,*
*Гэй, гэй!*
*Зазываў казачак дзеўку да каморы,*
*Гэй, гэй!*
*Зазываў казачак дзеўку да каморы.*
*— Ні пайду, казаку, ні пайду ў камору,*
*Гэй, гэй!*
*Бо я маладая, баюсь разгавору,*
*Гэй, гэй!*
*Бо я маладая, баюсь разгавору.*
*— Ні бойса, дзяўчына, ні бойса ты, міла,*
*Гэй, гэй!*
*Ні здрадзіў нікому, ні здраджу і табе,*
*Гэй, гэй!*
*Ні здрадзіў нікому, ні здраджу і табе.*
*Пакінуў казачак тры рублі на мыло,*
*Гэй, гэй!*
*Тры рублі на мыло, а дваццаць на піво,*
*Гэй, гэй!*
*Тры рублі на мыло, а дваццаць на піво.*
*— Мылом намывайса, півом напівайса,*
*Гэй, гэй!*
*Штоб маці ні знала і другім ні сказала:*
*Гэй, гэй!*
*Штоб маці ні знала і другім ні сказала:*
*— Ціпер мая донька ў лузі ні каліна,*
*Гэй, гэй!*
*Ціпер мая донька хлопцам ні дзяўчына,*
*Гэй, гэй!*
*Ціпер мая донька хлопцам ні дзяўчына.*

Ад Гэлены Тычынскай, 1923 года нараджэння, вёска Мастаўляны Беластоцкага павету запісаў 25 кастрычніка 1973 года Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіў Эдуард Гойлік.

# АДКАЗ НА „АДКАЗ"

У тыднёвіку „Ніва" № 48 паявіўся адказ начальніка гміны ў Кляшчэлях на маю інфармацыю пад загалоўкам „Такі ён механік", якая была надрукавана дзесьці летам. Дзіўна, што гміна ў Кляшчэлях так доўга цягнула са сваім адказам. І яшчэ больш дзіўным здаецца сам адказ, які не асуджае несумленнага механіка. Такі адказ — гэта нічога іншага, як зрабіць паводле прыслоўя: „Каб авечка была цэлая і воўк сыты". Так у скарачэнні можна ацаніць змест адказу з гміны.

А ў сапраўднасці як было і што мне, як карэспандэнту „Нівы", падказала апісаць праўду пра В. Грэня? Як кажуць, я на сваёй скуры адчуў „механіку і праўду" Грэня. Вось няхай чытачы „Нівы" лепш самі скажуць, як ацэньваць такога механіка.

Паслухайце. Недзе ў канцы мая 1973 г. у Кляшчэлях папсаваўся ў мяне матацыкл (ездзіў туды па справе). Некалькі жыхароў мястэчка параілі мне завясці матацыкл да механіка Войцеха Грэня (пра якога я тады нічога не ведаў). Грэнь выразіў згоду адрамантаваць машыну. На маё пытанне, колькі будзе каштаваць работа, адказаў, што каля 100 зл., таму што нічога там важнага не сталася. Я спяшаўся на працу і не меў пры сабе прыладаў, каб самому на месцы адрамантаваць матацыкл. Невялікія рамонты магу сам рабіць.

У вызначаны дзень (нядзеля) паехаў я да Грэня па матацыкл. І паверыце, колькі ён заспяваў за рамонт? Не менш — не больш, а 700 зл. Я злякаўся, не паверыў. Але гэта была праўда. Нагаварыў Грэнь, што ён цэлы дзень сядзеў каля майго матацыкла. На мае просьбы спусціў сто злотых. І так „рамонт" каштаваў мне 600 зл. Выехаўшы ад механіка, праехаў я некалькі кіламетраў і матацыкл мой зноў папсаваўся. Хутка пераканаўся я таксама, што амаль цэлы бак з бензінам механік асушыў (было больш 10 літраў). І так, толькі што адрамантаваны матацыкл цягнуў я ад вёскі Еленка дадому ў руках.

Калі папсаваны матацыкл завёў я дамоў, тут вядома, бяда. Падумаць, заплаціў 600 зл. і назад прывёў папсаваны. Грошы кінуў, як у балота.

Неўзабаве еду да Грэня і кажу: або вярні мне 600 зл. (бензін ужо хацеў і даравацъ) або паўторна рамантуй, і на гэты раз без грошай. Грэнь не паверыў: як гэта без грошай? Скочыў, як казёл, пачаў крычаць, лаяцца паскуднымі словамі, шукаць каменя, каб, вядома, ударыць мяне. Я пастаяў крыху і падаўся дадому. Што ж, прапала. Не буду з Грэнем біцца на яго панадворку.

Дома сам пачаў глядзець у матацыкл, разбіраць дэталі, часткі. Людзі даражэнькія! Некаторыя часткі і дэталі Грэнь падмяніў на старыя. Новыя пазабіраў сабе. Мой матацыкл — амаль новы, а тут, глядзіце, дэталі пасля Грэневага рамонту паіржавелыя!

У Кляшчэлях я сустрэў таксама многа людзей — ахвяр механіка Грэня. Усе лаялі яго. І артыкул мой быў праўдзівы. Ды толькі смяяцца хочацца з некаторых слоў адказу з гміны Кляшчэлі на крытыку, асабліва калі яны паручаюцца, што матацыкл Грэнь адрамантаваў добра. Відаць, ніхто з працаўнікоў гміны, а тым больш начальнік, не бачылі, як я асабіста цягнуў свой папсаваны адразу пасля Грэневага рамонту матацыкл. Як мой лоб быў мокры ад поту! І гэта лічыцца добрым рамонтам, паводле гміны ў Кляшчэлях. Або іншыя дзіўныя словы, што высокія цэны, якія дзярэ Грэнь, не даюць права гміне ўмешвацца ў гэта, бо ж Грэнь нікога не прымушае рамантаваць у яго. А я не чуў нідзе, і чытачы таксама не чулі, каб нават найлепшыя механікі цягнулі людзей у свае кузні. Ніхто не выходзіць на дарогу і не запрашае прыходзіць да яго на рамонты. Не заклікае і Грэнь на дарогах. Ці ж у гэтым аднак справа? Справа ў тым, што Грэнь махлюе, не маючы ніякіх праўных асноў, каб прыватна праводзіць рамонты і дзерці з людзей грошы.

**М. Панфілюк**

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ



У вёсцы Кнаразы Бельскага павету юнакі і дзяўчаты любяць займацца спортам. Навыкі і спартыўныя схільнасці выносяць яны са школы. Дзяўчаты любяць сяткоўку, а хлопцы — перш за ўсё футбол. Усе яны члены ЛЗС.

Сёлета кнаразоўскія спартсмены ўдзельнічалі ў дажынкавых бегах у Храбалах і ў Бельску. Найлепш пабегла Людміла Крышпінюк. Яна заняла першае месца ў бегу на 800 метраў. Апрача таго, юная спартсменка дабілася выдатных вынікаў у скоках.

Людміла Крышпінюк вядомая ў сваёй акрузе не толькі як таленавітая спартсменка. Дзяўчына два гады таму назад была ўзнагароджана медалем „За ахвярнасць і адвагу". Яна пагасіла пажар у брайлерні ў Зубаве і гэтым самым уратавала ад гібелі тысячы курэй. Яна таксама актыўны член жаночай добраахвотнай супрацьпажарнай каманды.

Варта дадаць, што Людміла Крышпінюк працуе цяпер ў брайлерні ў роднай вёсцы Кнаразы.

Ц. Я.

# З ДАПАМОГАЙ СЯЛЯНАМ

Спулдзельчая ашчадна-пазыкавая каса ў Орлі, як ўсе іншыя такія ўстановы, адыгрывае вялікую ролю ў жыцці вёскі. Сяляне складаюць свае ашчаднасці ў СОП-аўскую касу, а калі трэба, калі няма ўласных грошай на нейкія пакупкі, атрымоўваюць пазыкі. У мінулым годзе, як сцвярджае шматгадовы кіраўнік гэтай установы Пётр Мартыновіч, найбольш пазык сяляне бралі на развіццё жывёлагадоўлі і на пакупку сельскагаспадарчых машын.

Жыхары нашых вёсак ведаюць, што найлепшай пародай кароў з'яўляецца нізінная чорна-белая. На Беласточчыне гэтай пароды кароў яшчэ нямнога, і таму прывозяць іх з Люблінскага ваяводства. У раёне арлянскага спулдзельчага банка і пры атрыманні ад яго пазык гаспадары купілі на гадоўлю ў гэтым годзе 700 цялят і 50 яловак гэтай пароды.

Дзякуючы новым пастановам нашай дзяржавы цяпер вельмі добра аплачваецца сялянам займацца авечкагадоўляй. Карыстаючыся пазыкамі спулдзельчага банка ў Орлі, сяляне купілі 70 авечак пароды мерыносаў.

Па словах Пятра Мартыновіча, некаторыя пазыкі звязаны з порамі года. Напрыклад, на пакупку касілкі, жняяркі і заграбалкі складаюць сяляне заявы на пазыкі перад сенакосамі і жнівом, а перад Новым годам і калядамі — на пакупку радыёпрыёмнікаў і тэлевізараў.

У мінулым годзе арлянскі спулдзельчы банк на пакупку сельскагаспадарчых машын, тэлевізараў, радыёпрыёмнікаў, сціральных машын і халадзільнікаў даў пазык больш як на 700 тысяч злотых. Сума ўсіх пазык за 1973 год да 1 снежня склала 7 мільёнаў 300 тысяч злотых.

Даволі выгадна тым жыхарам Орлі і навакольных вёсак, якія займаюцца вырабамі саламяных каробак. СОП на месцы выплачвае ім грошы. За год выплаціў ён больш 12 мільёнаў злотых.

Нядрэнна ў Орлі і з колькасцю членаў СОП-у. Налічваецца іх 1657. Свае ўклады ў арлянскім спулдзельчым банку мае 1000 чалавек, а сума грошай на іх кніжках складае 14,5 мільёнаў зл.

Некаторыя арганізацыі вельмі ўдзячны арлянскаму спулдзельчаму банку за фінансавую дапамогу. Вось, напрыклад, прыдзяляе ён кожны год па 400—500 злотых бібліятэчным пунктам у вёсках свайго раёну. У мінулым годзе прызнаў ён 2000 зл. арлянскаму харавому калектыву, 2000 зл. — на будову святліцы ў Міклашах, 2000 зл. — на арганізаванне дзяцінцаў на вёсках у час жніва.

Адным словам, банк гэты добра служыць людзям. (мх)

# Добрыя гаспадыні

Каля 4 200 сакольскіх вясковых гаспадынь, згуртаваных у 200 гуртках, вядуць карысную работу для дабра свайго асяроддзя. Дзякуючы іх грамадскай працы ў мінулым годзе 1 337 дзяцей было ахоплена апекай у вясковых дзяцінцах. Асабліва ўдаліся яны ў Нававолі, Паўночным Востраве, Старой Камёнцы (найлепшы ў ваяводстве) і ў Крушынянах. Сотні жанчын удзельнічалі ў конкурсе „Букет агародніны і кветак". Перамаглі ў гэтым конкурсе жанчыны са Слойкі Бараўшчызны. Другое і трэцяе месцы занялі гаспадыні з Малявіч Дольных і Сіткова. Атрымалі яны каштоўныя рэчавыя ўзнагароды: пыласосы, пралькі, сокавіроўкі. Конкурс найбольш садзейнічаў папулярызацыі ранняй і малавядомай агародніны. Усё больш жанчын закладае ў сябе інспектавыя вокны. Сакольскія жанчыны арганізавалі некалькі выпазычальняў хатняй пасуды і механічных прылад хатняга ўжытку. Існуюць яны між іншым у Паўднёвым Востраве, Вострай Гары і Францкове.

У вясенні перыяд жанчыны займаліся супольнай гадоўляй куранят. Ёсць нават карысная думка адносна пабудовы аб'екта для гадоўлі дзесяці тысяч куранят.

Цяпер у зімовыя вечары жанчыны маюць больш вольнага часу. Яны ахвотна прысвячаюць яго розным курсам: кулінарным, кравецкім, ручной вышыўкі, касметычным і г.д.

Такія курсы намераны арганізаваць у сябе жанчыны з вёсак Гаркавічы, Вараняны, Макаўляны, Малявічы, Слойка, Краснае, Заброддзе. (ця)



*Хата Ігната Ваўрэнюка з Рыбалаў.* *Фота Я. Цялушэцкага*




## ДО ЗУОРКІ

Здалюок познав Мішку. Ішов нога заногу, чуть волуоксе.

— Міша, можэ ты лепі од мэнэ бачыш, зышла вжэ зуорка на нэбі, чы не? Кішкі до жывота прыліпілісе, чуть дыхаю, а маті есті нэ дае, бо зуоркі нэма шчэ на нэбі. Ціелы дэнь мучусе.

— Ніе, і я нэ бачу, — одозвавсе, трохі почырвоневшы.

Капнув одразу: мусі і вуон украв, як я, в кішэню жмэню кутіе з маком і ев за хлівом або за клунею, коб хоч ніхто нэ зобачыв. Ну і што ж тут такого кепського я зробів? Якій жэ то грыэх, затое послі, як наемсе вэчэры, то нэ так вельмі будэ жывуот боліев.

— О, о, дівісь! — крыкнув Мішка, — зуорка засвітіла!

Як коні, попэрлі на колядную вэчэру.

## КОЛЯДА

— Ну, збірайтэсе все, зараз будэм вэчэраті, — адозвавсе батько, входячы до хаты з „діедом“, скручаным з жыта. „Діеда“ звязав пэрэвяслом тонкім, положыв хіба з пуовруомнянкі сена в куток под образы і поставів.

Маті заслала стуол біелым, дзюравым обруском і зачала носіті всякую добрэнькую страву. Коб хоч нэ было мэнч, як сіем, лічыла собе в памэті маті.

Сэрэд стола батько поставів бутэльку віна. Чырвоного віна. Очы розбігалісе, дівячысе на кутю з маком, следзі, рыбу, боршч з грыбамі, шчуолок з яблык і груш, кісіель з овсянуой мукі, пляцкі... А всё на оліеві, пахотіт...

Наліев повны кілішкі. Добрэ, за 23 злоты.

— Ну, діеті, а тэпэр выпем за тое, коб нам добрэ жытко уроділо на другі руок, коб коруовкі і паршучкі добрэ велісе, коб здорове і шчасце пановало в хаті і в господарці! Дай божэ!

Выпілі. Наелісе. Пушлі спаті. Сон нэ брав, жывоты болієлі. Встали, пушлі на всюнуочню.

## ЮУОЛКА

— Тату, едэм по юуолку, я хочу зробіті юуолку, такую гожэньку, гожэньку.

Селі в сані по вэчэры. Поехалі. Нэ было тэмно, світів ясно міесэць і зуоркі.

В'ехалі в лес, зробілосе трохі страшно. А што будэ, як господар зобачыт, як мы будэм зрыэзоваті юуолку? То ж ёго, нэ наша, в нашуом ліесі нэма, у нас оно хвуойкі.

Встала рано. Давай прыбіраті. Юуолка крутіласе, повешана на вэровці, прычэпівшы до бэлька.

Гожа юуолка, вэльмі гожэнька. Зінка ніякоі нэ мае.

Глянула. Закрутылісе — ленцюжок з колёровых паперкув, зуорочкі, зайчыкі, конікі, усё зробіла сама, клеіла і клеіла ціелы вэчур. Пранічкі і яблычкі, оно цукіеркув нэма, шкода, склеповы нэ прывёз ніякіх цукеркув у паперках, оно банку ляндрынок, а іх жэ нэ повіесіш...

Напэвно, Зінка посварыцце, вона нэ даруе мне такоі юуолкі. З заздросці...

## ГАМАНЫ

В сенях запахло. Цінамоном, яблыкамі.

Вбігаю до хаты. Бачу, а якжэ, гаманы з пэчы маті вымае. Пухкіе і беленькіе, хіба з пытлёвоі мукі і то пэршоі. Нэ будэ встыдно занэсці до хлопці. Якраз складаюцце ў Грышы, а туды нэ понэсэш з розовоі мукі. Зараз тэбэ Грышова маті обговорыт, як тэшча нэвестку. А як шчэ ковбаску доложыт до міскі з гаманамі, пуод свято наробілі нэ мало, на ціелы руок хватіт по трошкі.

Хлопці прынэсут по бутэльці горыэлкі і тое, што наколядуют, музыкі на ціелую нуоч... І бабы позбігаюцце пуод окно зобачыті, як іх дочкі танцюют, з кім танцюют...

А послі, обговоры, плёткі, брэханне языкамі на ціелые мясніці...

## КОЛЯДНІКІ

Гандзя скупая, як туолькі почало шарыэті на дворыэ, позачыняла океніці і пушла спаті. Коб коляднікам нічого нэ даті. І такіе люді е на свіеті, у святочко божое і то шкодуют грошыка. А колісь то такіе хаты і жэбрушчые мінали. І коляднікі ўжэ ведаюць, таксамэ мінают.

Шчэ відно на дворыэ, а тут маленькіе дівчэнятка бігут пуод окно і пішчат: „Нова рада стала..., ...я умом ходіла...“ Нэ вельмі і понімают тое, што „співают“, але ж і ім хочэцце раз у руок свое грошыкі міеті. І мают, люді дают по 50 грошы, по золотуовці, а хто і два дасць.

Хлопці ціэлы пуост робят гвязды, дванаццэтіруожные, колёровые, з свіечкою в сэрэдіні. Збіраюцце з дівчатамі і чэрэз ціелую вёску чэшут, мінают туолькі тых, якіе поховалісе, коб ковбаскі нэ даті. Бо „вэлікім“ дают туолькі ковбаскі і яйця. Іначэй нэ выпадае, нэ дасі ж одное золотуовкі.

Прышлі пуод окно. Заспівалі, аж окна задрыжалі; „Выпрагайтэ, хлопці, коні...“ За такіе піесні то і буольш заробіш, ой, люді любят такіе піесні... І дают, хватіт на ціелы дэнь пэрэпіваті з дівчатамі...

**Андрэйка**



Фота **А. Карпюк**




### ЗІМА

Зіма строгая прыйшла,
З ёй віхор і снег.
І мароз прывяла —
Зімовага мастака.

І снег сыпацца пачаў,
Як залацістыя аплаткі.
І ляцяць яны з гары
На старыя хаткі.

І мароз пачаў работу,
Пачаў вокны маляваць,
А ўзоры ўсёга сорту,
Кожны можа сабе ўзяць.

Вецер ўсяму прыглядаўся,
Потым знудзіла яго
І пачаў сваю работу —
Веяць колькі сіл ў яго.

Тут жа сонца падгравае,
Снег ўжо тае і плыве.
І зіма ўжо ўцякае
І вясне месца дае.

**Павел Ляшкевіч,**
Бельскі беларускі ліцэй

### ЖЫЦЕ

Чом ты, жыце, хутко так імчышся,
Чом быжыш ты стрымголоў упэрэд?
Нэ спышай, пожды, нэ торопыся,
Всё руомно умру, як прыдэ муой чэрэд.

Я шчэ вовсі добрэ нэ нажыўся,
Людём мало доброго зрабыў.
Як умру, то все мэнэ забудут,
Будьто вцале хтось такі нэ жыў.

Так шчо ты подумай і згодыся
З тым, жэ я шчэ ліетьмы молоды,
І нэ пхай мэнэ смэрті под косу,
Глянь, які наш сёй свіет голубы.

А ты прэш і прэш без пэрэдышкі,
Нэ дывыўшысь, куолько хто жывэ.
Пробыжыш, кульгаючы по бездорожах,
Врэшты спатыкнэшся і зо мною ўмрэш.

Кажны дэнь, годына і мынута
Пролетят, як пуля із руж'я.
Добрэ, шчо нэ разом все родылісь
І нэ ўмрут, колі ўмру вжэ я.

**Васіль Петручук**
Беласток

### ДАЙЦЕ МНЕ РУКІ

Хачу мець многа рук,
Рукі ўсюды —
Рукі замест ног,
Рукі замест твару,
Рукі замест грудзей —
Многа рук,
Каб трымаць у іх зброю
Супраць зла
І несправядлівасці
Чалавечай...

**Яўген Семянюк**
Бельскі беларускі ліцэй




У Аўгустоўскіх лясах, што раскінуліся за Нёманам па граніцы Польшчы і Усходняй Прусіі, стаяў пагодлівы лістапад сорак чацвёртага года.

На скапаную снарадамі, зрэзаную траншэямі зямлю павольна ападала мядзяная лістота клёнаў, дажджом сыпаліся круглыя лісточкі асін і бяроз.

Вада ў рэках стыла халоднай асенняй сінечай. Раніцой іней падбельваў бурую траву, абарваныя ніткі тэлеграфных правадоў, бруствэры траншэй.

На фронце было зацішша.

Нядаўна закончыліся цяжкія летнія баі, савецкія войскі прайшлі ад Магілёва да Усходняй Прусіі і спыніліся, накопліваючы сілы для новага кідка ў глыб Германіі. Нямецкае камандаванне добра разумела часовы характар зацішша, ведала, што савецкія арміі рыхтуюць новы ўдар, і старалася ўдакладніць, дзе, калі і якімі сіламі гэты ўдар будзе чанесены. Фашысты засылалі ў тыл савецкага фронту разведчыкаў.

Ахову нашага тылу неслі спецыяльныя часці войск НКУС. Яны вылоўлівалі варожых лазутчыкаў, ачышчалі тыл ад бандытаў і дыверсантаў.

Адно з падраздзяленняў войск аховы тылу — застава капітана Глебава — размясцілася ў прасторным канцавым доме польскай вёскі Кудароўшчына.

У вёсцы сонная цішыня. Фронт адкаціўся на захад. Часам там глуха бухаюць гарматы, ноччу па небе шныраць пражэктары, яго прашываюць ніці трасіруючых куль.

Цішыню вёскі раптам парушыў трэск матацыкла. Узнімаючы віхурай лісце і разганяючы гусей, па вуліцы праімчаўся вайсковец, ускочыў у двор заставы і, як укапаны, спыніўся ля ганка.

— Пакет начальніку! — крыкнуў ён вартавому. — Тэрміновы!

* * *

У шыфроўцы штаба паведамлялася, што, паводле дадзеных разведкі, у тыл фронту гітлераўцы закінулі парашутыстаў-дыверсантаў. І вельмі магчыма, што група іх з'явіцца ў раёне дзеяння заставы капітана Глебава. Мэта — знішчэнне мастоў, сродкаў сувязі, складаў боепрыпасаў і іншых важных аб'ектаў. Усе парашутысты ў форме салдат і афіцэраў Савецкай Арміі і забяспечаны дакументамі спецыяльнага атрада, які дзейнічаў у тыле фронту. Аперацыя мае ўмоўную назву „Лістапад“.

— „Лістапад“, — усміхнуўся Глебаў, — добрыя лісточкі. Між іншым, фрыцы любяць прыгожыя словы. Для прыкрыцця свайго паскудства. Сентыментальныя бандыты.

Капітан прыгадаў, як яшчэ ў час вайны ў Іспаніі нямецкая авіяцыя сцерла з твару зямлі горад Герніку. Гэтая варварская аперацыя называлася „Бясхмарнае неба“.

На шырокім непафарбаваным стале Глебаў разаслаў карту-двухкіламетроўку і схіліўся над ёю. Карта была амаль уся зялёная. Далёка адзін ад аднаго раскіданы па гэтай зелені шэрыя прастакутнікі хутароў і вёсак, злучаныя тонкімі цёмнымі жылкамі прасёлкавых дарог. Многа блакітных жылак-рэк, цёмных штрыхоў балот. Непадалёку ад Кудароўшчыны прамая лінія брукаванай шашы, якая злучае гарады за рамкамі карты. На шашы дзвюма дужкамі мост, нядаўна адноўлены нашымі сапёрамі.

Такі меў выгляд участак тылу, які ахоўвала застава Глебава.

Задача, якую належала рашыць заставе, — выявіць і ліквідаваць дыверсантаў — была ўжо не першай такой задачай, але ад гэтага яна не рабілася ні больш простай, ні лёгкай. Знайсці чалавека ў дрымучым лесе нават пры „суцэльнай“ прачосцы даволі складана, а застава, якая мае ўсяго тры дзесяткі салдат, не магла, зразумела, зрабіць такую прачоску. Вядома, групы пошуку заставы агледзяць усе падазроныя месцы, пройдуць усе прасекі і сцежкі. Магчыма, штаб палка падкіне такія-сякія сілы на дапамогу заставе, але ўсё роўна пошук у Аўгустоўскіх лясах — справа мала перспектыўная.

Між іншым, парашутысты наўрад ці будуць сядзець у лесе. Атрыманае заданне трэба выконваць, а седзячы ў лесе, яго не выканаеш. Да таго ж, у дыверсантаў нядрэнная „страха“ — форма і дакументы атрада.

Глебаў добра разумеў, што нямецкая разведка часам фабрыкавала дакументы надзвычай умела, і адрозніць падробку ад сапраўднага дакумента мог толькі вопытны чэкіст. Някепска была выбрана і вайсковая часць, якая нібыта і выдала дакументы. Спецыяльны атрад — часць тылавая, і паяўленне яе салдат і афіцэраў у тыле фронту — справа звычайная і не зверне на сябе ўвагі. Акрамя таго, дакументы спецатрада робяць на правяраючых прыкладна такое ж ураджанне, як дакументы франтавой контрразведкі „смерш“. З людзьмі, якія прад'яўляюць такія дакументы, салдаты аховы тылу стараліся не псаваць адносін так жа, як і тыя людзі з імі. Усё ўлічыла гітлераўская разведка і ўсё зрабіла з прафесіянальным майстэрствам.

(Працяг будзе)

# ТРЫБУНА чытачоў

## Партарганізацыя №24

Па ініцыятыве экзекутывы партарганізацыі нумар 24 адбылася нарада старшынь грамадскіх камісій, якія дзейнічаюць пры адміністрацыі раёну Тысячагоддзя ў Беластоку.

На пачатку сакратар ПОП паведаміў, што згодна з пастановай гарадскога камітэта ПАРП, прынятай на аснове дырэктывы Сакратарыята ЦК партыі, створаны раённыя партарганізацыі (замест даўнейшых тэрэновых). Цяпер партыйныя арганізацыі маюць большыя магчымасці, але і большыя заданні стаяць перад імі.

На сходзе была цікавая і плённая дыскусія. Людзі гаварылі пра дасягненні і недахопы свайго раёну. Нявырашаныя праблемы мае тут ТККФ, школа № 6 і 25, грамадскія камісіі. Ёсць ахвярны калектыў грамадскіх дзеячоў, які ахвотна працуе. На жаль, многія жыхары не дацэньваюць грамадскіх сіл і бяздумна нішчаць супольнае дабро. Новай асобай у раёне з'яўляецца кіраўнічка клуба „Міленіум“, якая толькі што прыступіла да працы. Маем надзею, што яна пастараецца і добра павядзе працу ў клубе.

У дыскусіі падкрэслівалася роля грамадскіх арганізацый і грамадскіх раённых камісій. Іх працу будзе кантраляваць партарганізацыя, арганізуючы адкрытыя сходы, каб даць магчымасць усім ахвотным выказаць свае прапановы і крытычныя ўвагі.

**Васіль Петручук**

## Малачарня ў Ягадніках

Праязджаючы вёску Ягаднікі, кожны заўважыць прыгожы будынак. Гэта малачарня. Да малачарні носяць малако 98 жыхароў вёскі. Некаторыя носяць нават па 20 літраў у дзень. Такія факты адзначаем з прыемнасцю. Але атмасферу, якую ствараюць вясковыя дастаўцы малака, ужо цяжэй зразумець.

* * *

Ад часу, калі пабудавалі ягадніцкую малачарню, не было ніводнага зліўняра, які б утрымаўся тут даўжэй, чым год. Прычыны былі розныя: некалькі адраклося, іншых не хацелі жыхары. У апошні час малачаром стаў малады хлапец Янка. Янку выбралі самі жыхары вёскі. Пасля выявілася, што тымі, хто яго выбіраў, кіравала вера, што можна будзе па Янку „паехаць“, дыктаваць яму. Калі аказалася, што Янка нікога не слухаецца, дастаўцы пачалі інакш. Яны кожны дзень проста сварыліся. Найгорш даводзіцца малачару, хаця і ён не без грахоў. А закіды ў яго бок больш-менш такія: крадзеж малака, адным дапісаў, другім адпісаў.

З-за малака некаторыя пасварыліся паміж сабой і дагэтуль не гавораць. Нават дайшло да таго, што аднойчы заклікалі ў Ягаднікі камісію, якая спраўджала, якое хто малако прыносіць у малачарню. Выявіліся несправядлівасці і несумленнасць: у адных малако было замала тлустае, у іншых замоцна. Аказалася, што людзі хітруюць, а гэта ўжо кепска.

Кажуць, што грошы шчасця не даюць. І ў Ягадніках з-за грошай многія перасварыліся, празываюцца. А ёсць жа ў вёсцы партыйная арганізацыя. Ці яна не магла б па справядлівасці ацаніць сітуацыю і ліквідаваць канфлікты?

**„Цікавы агент“**

## НОВЫ ГУРТОК БГКТ

Пачатковую школу Валя Анішчук закончыла ў Старым Корніне. Для далейшай вучобы выбрала беларускі ліцэй у Гайнаўцы. Валя вучыцца добра. У грамадскую працу актыўна ўключаецца ў школе. Дзейнічае таксама і па-за школай на ніве БГКТ і ТППР. Нядаўна арганізавала новы гурток БГКТ у Бельшчызне. Члены выбралі яе старшынёй гуртка. Усе гуртко ўцы з запалам узяліся за працу на карысць свайго асяроддзя.

**Віктар Бура**
Сакратар аддзела БГКТ
у Гайнаўцы

### ГМІННЫ СХОД ЗБоВіД

У Шудзялаве адбыўся гмінны сход ЗБоВіД, на якім былі абмеркаваны справы, звязаныя з пастановамі І краёвай канферэнцыі і з XXX гадавінай ЛВП. З дакладамі на другую тэму выступілі прадстаўнікі павятовага аддзела ЗБоВіД Мікалай Парфенюк і Аляксандр Казлоўскі.

У Шудзялаўскай гміне пражывае 86 членаў ЗБоВіД. Чатыры з іх былі выбраны раднымі гміннай рады: Анатоль Матусевіч з вёскі Сукавічы — былы салдат Савецкай Арміі, які дайшоў аж да Берліна, Юзэф Федзюкевіч з Піражкоў — былы салдат Савецкай Арміі, які праваяваў усю вайну, Хомік Уладзімір са Слоі — былы член КПЗБ і палітвязень санацыйных турмаў, Уладзімір Лісоўскі з Талькоўшчыны — былы міліцыянер, удзельнік станаўлення народнай улады ў Польшчы.

Па першым пункце парадку дня сабраныя прынялі пастанову павысіць жывёлагадоўлю, асабліва гадоўлю свіней у сваіх гаспадарках і павялічыць ураджаі збожжа на сваіх палях.

Затым было аб'яўлена, што ў сувязі з XXX гадавінай ЛВП, збавідаўцы атрымаюць Карты ветэранаў. У першую чаргу атрымаюць іх былыя касцюшкоўцы і былыя чырвонаармейцы, а потым іншыя барацьбіты за свабоду і дэмакратыю.

**У. Х.**

## Непаслухмяны аўтобус

Аўтобус, які ездзіць па трасе Бельск — Орля—Дубічы Царкоўныя часта па невядомых прычынах мяняе свой напрамак і ў Дубічы Царкоўныя ранкам наогул не даязджае. А па правілах павінен прыязджаць два разы ў дзень. 3 снежня гэты аўтобус раніцай прыехаў з Бельска ў Орлю ў 8,35 (павінен прыехаць у 8,28 крыху спазніўся). Тут завярнуўся і ў Дубічы не захацеў ехаць, хоць у аўтобусе пасажыры чакалі, нават з малым дзіцём з Дубіч Царкоўных. Шафёр са сваім кандуктарам бачылі ўсё гэта, аднак засталіся глухімі на просьбы людзей, каб завезлі іх на месца. Адказ быў такі: мы спазніліся на 5 мінут і таму туды не едзем, чакайце другога аўтобуса. Гэта азначала чакаць 6 гадзін. Бацькі з малым дзіцём вымушаны былі пехатой ісці ў Дубічы Царкоўныя 10 км. Іншыя пасажыры таксама шукалі нейкага выхаду, каб дабрацца ў свае вёскі, што па дарозе ў Дубічы.

Хочам дадаць, што дарога з Орлі ў Дубічы ў гэты дзень была чыстая і не было ніякай прычыны, каб аўтобус туды не паехаў.

**П. Дубовіч**




**Дарагое „Сэрцайка“!**

Мне 17 год. Жыву я на вёсцы. Пару месяцаў назад пазнаёмілася з Мішам — хлопцам з суседняй вёскі. Ён мне спадабаўся, і я яму таксама. Часта мяне наведвае, а нядзелі дык абавязкова разам праводзім. Міша гаварыў, што мяне вельмі кахае і, калі б мы былі старэйшыя, дык ужо пажаніліся б. Але што ж, калі я нядаўна скончыла 17, а Мішу 19 гадоў. Да таго яшчэ Міша вясною ідзе да войска, дык чакае нас двухгадовае расстанне. Цяжка нам аб гэтым гаварыць, бо наогул не ўяўляем сабе, як мы расстанемся. Міша баіцца мяне пакінуць, каб я за каго іншага не выйшла замуж. Я чакала б, пакуль ён вернецца, я на іншых хлопцаў наогул не звяртаю ўвагі, бо мне толькі Міша падабаецца. Ён хацеў бы са мной ажаніцца перад войскам, аднак нас не запішуць. Міша кажа, што і на гэта ёсць спосаб. Менавіта, я павінна стаць цяжарнаю, і тады суд дазволіць нам запісацца. Я не ведаю, што рабіць: паслухаць Мішу ці чакаць, пакуль ён вернецца з войска?

**Зіна з Бельшчыны**

Зіна, раю, хоць ты і кахаеш Мішу, адкінь яго прапанову. Выйдзе гэта, напэўна, абодвум вам, а перш за ўсё табе на здароўе. Ты яшчэ вельмі маладая і Міша таксама не на многа старэйшы, і таму не ўяўляеце сабе, якія абавязкі накладае на абодвух, а перад усім на жанчыну, сямейнае жыццё. А тут яшчэ і двухгадовае расстанне. Тады табе, маладзенькай, прыйшлося б самой на працягу двух год гадаваць маленства. Гэта не простая і не лёгкая справа! Ды і каб выйсці замуж, трэба дакладна пазнаць адзін аднаго, пераканацца ў трываласці сваіх пачуццяў, а вы так мала яшчэ ведаеце адзін аднаго. Якраз за гэты час, калі Міша будзе ў войску, калі вы будзеце далёка, вы здолееце пераканацца, ці ваша каханне трывалае, бо яно з'яўляецца фундаментам вашага будучага шчасця. А калі б ужо цяжка было чакаць два гады, дык можаце і раней пажаніцца, калі Міша яшчэ будзе ў войску, але закончыць 21 год жыцця. Жадаю вам цярплівасці ў чаканні.

**„Сэрцайка“**

## Мы глядзелі фільм

Дарагая „Ніва“, пішам мы да цябе першы раз, але часопіс гэты ахвотна чытаем. Хочам мы табе напісаць, як глядзелі беларускі фільм.

29.XI.1973 г. у нашу школу з гайнаўскага аддзела БГКТ Віктар Бура прывёз фільм „Гадзіннік спыніўся апоўначы“. Галоўная тэма фільма — гэта мужная барацьба беларускага народа з фашысцкімі захопнікамі. Дзве гадзіны гледачы, стаіўшы дыханне, глядзелі гэты фільм. Усім ён вельмі спадабаўся, а пра галоўных герояў мы гаварылі яшчэ многа дзён пазней. Хацелі б мы яшчэ больш пазнаць беларускіх людзей і іх подзвігі, таму стараемся чытаць як найбольш беларускіх часопісаў.

Шлем сардэчныя пажаданні мілай і заўсёды вясёлай „Ніве“.

**Вучні сёмага і восьмага класаў**
з Лянева, Гайнаўскі павет

## Новы калектыў у Чаромсе

Пасылаю вам здымак свайго маладога хору. У апошні час удалося мне стварыць новы калектыў у доме культуры чыгуначнікаў пры дэпо Чаромха. Удзельнікі хору — гэта вучні пачатковай і прафесіянальнай школ. У калектыве пераважна дзеці чыгуначнікаў. Мы працуем пад поўнай апекай прафсаюза чыгуначнікаў (ЗЗК).

Удзельнікі працуюць пад маім кіраўніцтвам ад верасня 1973 г. Нягледзячы на кароткі час, хор ужо выступіў. Было гэта 6.XI.73 г. на вечары, прысвечаным 56-ай гадавіне Кастрычніка.

Здымак, які вам пасылаю, зроблены ў час нашага першага канцэрта. У праграме былі польскія ваенныя песні, рускія — рэвалюцыйныя і беларускія — народныя. Беларуская песня карыстаецца вялікай папулярнасцю сярод маладых спевакоў. Запрашаем да нас.

З пашанай **Міхал Артышэвіч**




## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

## Гарадку ўладзілі

**АДКАЗВАЕ:**
Prezydium Powiatowej Rady Narodowej Wydział Rolnictwa i Leśnictwa w Białymstoku.

W nawiązaniu do felietonu przesłanego za pismem z dnia 3.XI.1973 r. pt. **„Dlaczego mam nie śpiewać”** opublikowanego w „Niwie” — Wydział Rolnictwa, Leśnictwa i Skupu Prezydium Powiatowej Rady Narodowej w Białymstoku niniejczym informuje, że została rozpatrzona sprawa sprzedaży działek budowlanych w Gródku i w dniu 22.XI.73 r. została wydana decyzja, zatwierdzająca kandydatów na nabywców działek, obejmująca 33 działki budowlane. Po uprawomocnieniu się decyzji wraz z pozostałą dokumentacją w końcu miesiąca grudnia zostanie przekazana do Banku Rolnego w Białymstoku w celu zawarcia aktów notarialnych sprzedaży. Ubiegający się o sprzedaż zostali poinformowani o powyższym przez doręczenie im decyzji. 1 egz.

Jednocześnie wyjaśnia się, że sprawa opóźnienia sprzedaży działek, oraz związane z tym rozpoczęcie budowy przez zainteresowanych nastąpiło nie z powodu wyznaczenia granic działek przez służbę geodezyjną, bo ustalenie i wyznaczenie projektowanych działek nastąpiło w okresie wcześniejszym. Opóźnienie nastąpiło z powodu przewlekłego trybu postępowania, związanego z ich przyjęciem na własność Państwa, dokonania szacunku działek i ich składników, ustalenia i wpłaty odszkodowania ich poprzednim właścicielom.

Szczególną przeszkodę stanowił brak aktów własności u poprzednich właścicieli niektórych działek oraz odmowa ich współpracy przy wszczętym z urzędu uregulowaniu własności ich nieruchomości.

Powyższe spowodowało opóźnienie w ostatecznym rozliczeniu się z częścią poprzednich właścicieli sprzedawanych działek oraz niemożliwość wydania wcześniej decyzji o przeznaczeniu ich nowym nabywcom

Podpisał:

**Z-ca Kierownika Wydziału**
**Rolnictwa, Leśnictwa i Skupu**

**inż. Józef Bruszewski**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Orle piórka” (jugosł.), 8—9. „Kot” (franc.), 10—11. „Czym mogę służyć” (czeski), 12—13.

**Чаромуха**
„Na samym dnie” (NRF), 8—9. „Rewizja osobista” (polski), 12—13.

**Кляшчэлі**
„Dziki i swobodny” (angl.), 8—9. „Śmiech w ciemnosci” (angl.), 10—11. „Ten okrutny, nikczemny chłopak” (polski), 12—13.

**Нараўка**
„Szklana kula” (polski), „Tam gdzie rośnie zielony bór” (jugosł.), 9—13.

**Нарва**
„Ponieważ się kochają” (rumuński), „Walter broni Sarajewa” (jugosł.), 9—13.

**Чыжы**
„Najlepsze lata w życiu mężczyzny” (węgierski), „Gdzie jest generał” (polski), 9—13.

**Дубічы Царкоўныя**
„Morderca samotnych kobiet” (NRD), „Tylko wtedy, gdy się śmieję” (angl.), „Zaproszona” (franc.), „Ślub bez obrączki” (czeski), 8—13.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**
„Tydzień szaleńców” (rumuński), „Dziewczyna na miotle” (jugosł.), 9—13.

**Райск**
„Anatomia miłości” (polski), „Księżniczka Czardasza” (węgierski), 9—13.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Walter broni Sarajewa” (jugosł.), 12—13.

**Міхалова**
„Spartakus” (USA), 8—9. „Historia miłości” (hiszpański), 10—11. „Biały ptak z czarnym znamieniem” (radz.), 12—13.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**
„10 dni bezpłatnego urlopu” (bułg.), „Pod prąd” (węgierski), 9—13.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Spojrzenie na wrzesień” (polski), „W pustyni i w puszczy” (polski), 9—13.

**Мілейчыцы**
„Legenda” (polski), „W pustyni i w puszczy” (polski), 9—13

**Ніва**

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch”. Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa”, Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicyści 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł. kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch” w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch”. Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc. Nr indeksu 36911.

BZGraf. Nakład 7.669 O-3

# На лыжні

Калі б не сусед, не спазнаць бы Піліпу Мітрафанавічу таго характва...

— От пацешышся ўволю на прыродзе, такі бадзёры імпэт адчуеш! — даводзіў сусед. — А то паглядзі, які ты ў свае дзвццаць пяць тоўсты стаў. На прыродзе, брат, — і здорава, і хораша!

— Ага, па тэлевізару вунь паказвалі, прыгожа, — пагадзіўся Піліп Мітрафанавіч. — Паедзем.

Такім чынам сябры зрабілі вылазку на прыроду.

...Лыжня праходзіла па ўзлеску. Сонца, іскрысты снег... Паветра — бы той бальзам: пі — не нап'ешся... Сусед ужо дзесьці за пагоркам схаваўся, а Піліп Мітрафанавіч не спяшаецца, цешыцца вабнай прасторай. Снег так лагодненька, рамантычна рыпіць пад лыжамі.

На павароце яго абагнаў таўстун у пыжыкавай шапцы з апушчанымі вушамі. „Бяжы, выжывайся, — усміхнуўся Піліп Мітрафанавіч, — а я так: ціхей едзеш — далей будзеш". Праз колькі метраў другі лыжнік пырснуў на яго снегам, потым — трэці... І пайшлі, і пайшлі...

Тут Піліп Мітрафанавіч абурыўся. Калі ён зноў пачуў за спіной звон лыжаў, прышпарыў хаду. Не рвануў, вядома, а так, спакваля... Думае сабе: хай толькі пачне абганяць, тады можна і напружыцца, і сігануць.

Вось ужо і першы круг закончан — можна, як гэта ўсе робяць і адпачыць. Толькі спыніўся Піліп Мітрафанавіч і хацеў азірнуцца, а міма яго жанчына ў блакітнай куртачцы — шась!..

— Соромна, малады чалавек! Даганяйце!..

Піліп Мітрафанавіч стрымгалоў памчаўся следам за кабетай. Нават асцярога, якая маланкай мільганула ў галаве — „а што, як Рыгораўна мая даведаецца?" — не спыніла яго.

Шумеў у вушах вецер, мільгалі, прытанцоўвалі па баках дрэвы, а Піліп Мітрафанавіч не збаўляў тэмпу — яго ўсё больш ахопліваў спартыўны азарт.

...Нарэшце ён спыніўся, каб перавесці дыханне. Зняў шапку, выцер узмакрэлую лысіну.

— А праўда, вачэй не адвесці, — раптам пачуў побач. Абапёршыся на кій, ля яго стаяў сусед. Ён ужо зрабіў два кругі вакол ляска і дагнаў Піліпа Мітрафанавіча. — Праўда ж, нішто так не ўзрушвае і не супакойвае чалавека, як прырода?

У адказ Піліп Мітрафанавіч ускінуў высока ўгору кулак, патрос ім у паветры.

— Ну, заяц, пачакай. На той год усё роўна дагано, — усклікнуў ён, роспачна гледзячы на блакітную куртачку, якая знікла ў зіхоткай далечыні.

**А. Капусцін**



*Педант.*






### ХТО ЁСЦЬ?..

На покуце сядзеў, трубіў
Наш нечаканы госць:
— Я быў — ого!
А што рабіў!..
— Для нас няважна,
Кім ты быў:
Мы бачым,
Хто ты ёсць.

**Васіль Маеўскі**

### КОСТКА ДЛЯ ТАТЫ

Маці за абедам гаворыць да сына:

— Сцёпка, не грызі костку, ты ж не сабака. Лепш аддай яе татку.

### ЯК ЗАЎСЁДЫ

— Уяві сабе, учора мяне наведаў дух майго нябожчыка мужа!

— А ты ўпэўнена, што гэта быў якраз твой муж?

— Яшчэ б! Ён прыйшоў, як заўсёды, апоўначы!..

### МІНІБАЙКІ

### КРУМКАЧ

На лясной паляне разгаралася бурлівая дыскусія паміж ляснымі жыхарамі. Адзін крычыць, другі — бурчыць, трэці — рычыць. Некаторыя ўжо кінуліся ў бойку. Ужо і паляцелі шэрсць, пух і пер'е. Толькі Крумкач трымаўся ў баку дыскусіі і загадкова маўчаў. Яму было ўсё роўна, хто каго пераможа.

Ён чакаў на ахвяру.

**А. Леўчанка**

### ХТО ЛЕПШЫ

Амерыканка і парыжанка размаўляюць аб каханні.

— Француз, — гаворыць парыжанка, — заваёўвае жанчыну пяшчотнасцю. Спачатку ён цалуе кончыкі пальцаў, потым руку, вуха, шыю...

— Бог ты мой! — уздыхае амерыканка, — амерыканец за гэты час ужо вяртаецца з вяселънага падарожжа.

### СУПАКОЙ

Жанчына, якой павінны зрабіць сур'ёзную аперацыю, звяртаецца да хірурга:

— Доктар, мне сказалі, што гэта аперацыя вельмі рызыкоўная, яна ўдаецца адзін раз з трох.

— Супакойцеся, дзве ўжо былі няўдалыя...




### ЦЯЖКІ КОШЫК

Ажаніўся раўнівы хлапец і вырашыў, што жонку (для пэўнасці) лепш з сабою ўсюды насіць. Сплёў кашэль, пасадзіў у яго жонку і куды ні ідзе — кашэль на плячах нясе.

Прайшло гадоў пятнаццаць. Пайшоў ён у лес, стаміўся, сеў на пень адпачыць, а кашэль паставіў перад сабою.

Зірк у кашэль, а там з жонкаю сусед сядзіць.



**...Да П. прыходзіла натхненне, але ніколі не заставала яго дома.**

**...Ён прасіў яе рукі. Яшчэ б! — Тая была ў залатых пярсцёнках і бранзалетах.**

### БІЛІСЯ

— Шкада, што вы не былі на прэм'еры маёй новай оперы! Людзі біліся ля касы.

— Сапраўды? І што ж, вярнулі ім грошы ці не?

### ПАРАІЛА

— Ой, не спяшай, дачуся, замуж... Улічы, што цяперашнія мужы штораз горшыя, — павучае маці.

— Вось я і павінна паспяшацца, каб мне не дастаўся найгоршы, — адказала дачка.

### ПРАДБАЧЫЎ

Ідзе п'яны, трымаючыся за плот. Аж бачыць: там, дзе плот канчаецца, ляжыць чалавек. Вось ён і пытае яго:

— Чаму ты валяешся?

А той адказвае:

— Пачакай, плот скончыцца і ты тут апынішся.

### СЯБРЫ

— Пазыч сотню, — папрасіў Кастусь Міхася.

„Колькі сяброў я так страціў, — засумаваў Міхась. — Ён мне яе не аддасць і перастане са мною вітацца.

— Не дам, — рашуча сказаў Міхась.

„Усё роўна б ён мне не павернуў, калі б я сказаў яму праўду — што ў мяне няма сотні", — з сумам падумаў Міхась.

Больш яны не віталіся.



*Ёлачка рыбака.*

### ДРАЎЛЯНАЯ НАГА

Педра, уласнік прадуктовай крамы, быў арыштаваны і абвінавачаны ў тым, што абманваў сваіх пакупнікоў, прадаючы замест сапраўднай шынкі — драўляную, нарэзаную тоненькімі кавалачкамі ды загорнутую ў прыгожую паперу.

— Як вам не сорамна абманваць людзей? — звярнуўся да яго суддзя.

— Але ж, сіньёр, — заўважыў Педра, — адкуль я мог ведаць, што праклятая жывёліна мела драўляную нагу?



*Не лезь у бутэльку.*

ЧАГО У СПОРЦЕ НЕ БЫВАЕ!



*Скакун-перастрахоўшчык.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Янкі Сергеюка з Бытама змяшчаем савецкую песню*

## АНГАРА

**Слова Э. Иодковского**
**Музыка В. Мурадели**

Веет свежестью
ночь сибирская,
собрались друзья у костра...
Ты навеки нам
стала близкою,
величавая Ангара.

Дом родимый свой
у Москвы-реки
мы оставили навсегда,
чтобы здесь, в тайге,
встали фабрики,
встали новые города.

Все мне дорого
в новом городе,
где увидел взгляд милых глаз...
Возмужала здесь
наша молодость,
здесь любовь у нас родилась.

Не пугает нас
непогодина,
не замерзнем мы за рулем.
Расцветай, Сибирь,
наша Родина,
та, что матерью мы зовем!

Нет, с Сибирью мы
не расстанемся,
вера юности горяча:
в золотых огнях
гидростанции
пусть живет мечта Ильича!




### ВЕЛАСІПЕД: ЗА...

80-гадовы швейцарац Шарль Вайлд на адным і тым жа веласіпедзе, які быў куплены яшчэ ў 1920 годзе, паспяхова наездзіў па краінах Еўропы звыш 160 тыс. кіламетраў. Нядаўна нястомны турыст нарнуўся з 2600-кіламетровага падарожжа па дарогах Чэхаславакіі і Венгрыі. У гэтым годзе ён плануе адправіцца ў Савецкі Саюз, Польшчу, ГДР і ФРГ.

### ...І СУПРАЦЬ

Група шведскіх урачоў звярнулася да ўрада з настойлівай просьбай — забараніць язду на веласіпедах дзецям маладзей за 12 гадоў. Гэту просьбу падтрымалі паліцэйскія ўлады. Справа ў тым, што ў Швецыі, паводле даных статыстыкі, трэцяя частка пацярпеўшых у час дарожных здарэнняў дзяцей — бесклапотныя веласіпедысты.

### РЭХА ПАЛЕАЛІТУ

У Іспаніі на ўскраіне горада Таледа ў час земляных работ былі знойдзены рэшткі слана з біўнямі даўжынёй два з палавінай метра. На думку вядомага іспанскага палеазоолага М. Марціна Агуада, які даследаваў косці гіганта, што добра захаваліся, такія сланы жылі каля 1.300 тысяч гадоў назад, — адзіны такі экземпляр, знойдзены чалавекам на поўдні Еўропы.

### СЛАНЫ Ў НАВУШНІКАХ

Сланам, якія пражываюць у заапарку аднаго з прыгарадаў Лондана, вырашана надзець спецыяльныя навушнікі. Жыхары джунгляў не вытрымліваюць гулу рэактыўных самалётаў, якія стартуюць з аэрадрома, што знаходзіцца непадалёк.




**Паколькі крытыка начальства не даводзіць да дабра — можна лічыць яе злом.**